З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# Ці патрапіць Надзея Астапчук на Алімпіяду ў Рыа?

*Старшыня Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі Вадзім Дзевятоўскі мяркуе, што тэарэтычныя шанцы ў спартсменкі выступіць на Алімпіядзе-2016 у Бразіліі застаюцца.*

Нагадаем, штурхальніца ядра Надзея Астапчук заваявала залаты медаль на Гульнях-2012, але яе допінг-проба дала станоўчы вынік. Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі прыняла рашэнне аб 4-гадовай дыскваліфікацыі спартсменкі.

Тэрмін дыскваліфікацыі Астапчук пачаў адлік з 8 жніўня 2012 года, у гэты ж дзень у 2016 годзе Надзея зможа зноў выйсці ў сектар і нават прыняць удзел у Гульнях.

– Рэаліі такія, што дыскваліфікацыя ў Надзеі Астапчук заканчваецца за тыдзень ці за два да пачатку Алімпійскіх гульняў, – распавёў “Народнай Волі” **Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ**. – Але ж, каб патрапіць на Алімпіяду, ёй трэба яшчэ будзе выканаць алімпійскі нарматыў. Мы былі б вельмі рады, калі б Надзея выступала на Гульнях, але аб гэтым можна разважаць пакуль толькі тэарэтычна. Ёсць рашэнне аб дыскваліфікацыі спартсменкі, і самае прыкрае, што аспрэчваць яго ўжо позна. І раней ніхто не аспрэчыў. Хоць, на мой погляд, у гэтым выпадку былі механізмы, каб змякчыць пакаранне.

**– Чаму раней ніхто не аспрэчваў дыскваліфікацыю?**

– Мне цяжка сказаць, бо Беларускую федэрацыю лёгкай атлетыкі я ўзначаліў не так даўно. А Надзея, магчыма, не валодала ўсёй інфармацыяй. Але пра правы спартсмена заўсёды трэба гаварыць. Калі ёсць абвінавачванні, то ёсць жа што сказаць і другому боку. Можна разбірацца, хоць гэта і складаны шлях. Я сам у свой час апынуўся ў такой жа сітуацыі, але працягваў змагацца, дабіўся справядлівасці. І ў будучым федэрацыя, безумоўна, будзе падказваць спартсменам, як абараняць свае правы.

Сама **Надзея Астапчук** даволі скептычна ставіцца да магчымасці свайго ўдзелу ў Алімпіядзе.

*“Няма ніякіх шанцаў,* – сказала яна некалькі месяцаў таму. – *Беларуская федэрацыя так “удала” мяне дыскваліфікавала, што пасля заканчэння тэрміну пакарання я нават не паспею прайсці адбор на Гульні”.*

**Алесь СІВЫ.**

ПЕРСОНА

## *Андрей ПРАНЕВИЧ:*

# «Автомобиль для колясочника – вторые ноги»



***Андрей ПРАНЕВИЧ – мастер спорта международного класса по фехтованию на инвалидных колясках. Не так давно спортсмен был удостоен звания «Человек года Полотчины». Сейчас Андрей готовится к соревнованиям, которые пройдут в Польше в июле.***

***Андрей Праневич рассказал «Народной Воле», сложно ли человеку с ограниченными возможностями получить водительское удостоверение и почему не все способны пережить то, что оказались в инвалидной коляске?***

**– Андрей, расскажите, что с вами произошло?**

– Я получил травму в 10 лет. С друзьями бегали по стройке, я упал на металлическую трубу и ударился позвоночником. Врачи поставили диагноз – перелом позвоночника с параличом нижних конечностей, раздроблены два позвонка... Родители, конечно, безумно переживали. Им было трудно. Травма произошла в 1993 году, интернета, чтобы узнать какую-то информацию, как живут люди с такими диагнозами, тогда не было...

Позже я узнал про Общество колясочников, вступил в него и первый раз поехал в санаторий имени Бурденко. Там было много людей, которые оказались в такой же ситуации, как и я. В этом санатории меня научили жить по-новому: самому за собой ухаживать, заправлять кровать, ложиться, одеваться, раздеваться... Одним словом, обычные бытовые моменты я постигал с начала.

**– Получить такую травму в 10 лет…**

– Плюсом, если можно так выразиться, стало то, что я сломал позвоночник в детстве, я тогда до конца не осознавал, что моя жизнь изменилась. У взрослого человека, который состоялся как личность, есть планы на будущее, и тут внезапно происходит перелом – сразу же меняется мировоззрение. А я еще был ребенком, полгода после травмы находился в больнице, мне дали коляску, которую я постоянно крутил, какой-то интерес даже присутствовал...

После выписки из больницы психологически мне было очень тяжело. На улице казалось, что все люди смотрят только в мою сторону. Позже я без проблем общался с друзьями, много времени проводил с ними, несмотря на то, что обучался на дому. Сейчас я равнодушно отношусь к вниманию окружающих.

**– Часто приходится слышать, что самой большой проблемой для инвалида-колясочника является отсутствие безбарьерной среды. Некоторые на улицу выходят всего несколько раз в год…**

– Конечно, такие случаи есть. Человек получил травму и живет, например, в старенькой пятиэтажке без лифта. Кто-то поможет спуститься с четвертого этажа, но не каждый же день будут выручать. Редко когда старые магазины приспособлены для колясочников. Тяжело, когда нет условий и некому помочь.

Например, в магазин «Дионис» я могу самостоятельно приехать и сделать покупки. Там есть пандусы и нет ступенек, поэтому проблем не возникает. Я живу в частном доме, у меня все оборудовано для самостоятельного передвижения. В Полоцке в большинство магазинов и парикмахерских попасть можно. Есть, конечно, места, где высокие бордюры и без помощи преодолеть их сложно, но в целом трудностей не возникает. Очень неприятно, когда на стоянке для инвалидов паркуются здоровые люди. Сам вожу машину и знаю об этом не понаслышке.

**– Проблем с получением водительских прав не было?**

– Целая эпопея! На тот момент колясочников обучали только в Минске и Вилейке. Чтобы выучиться в столице, нужно было где-то жить. Общежитие там не предоставляли, и я поехал в Вилейку. На учебу и сдачу экзаменов у меня ушло три месяца. Все это время я жил в общежитии, самостоятельно готовил еду. Помню, что в комнате было довольно холодно – непросто пришлось. Уезжать далеко от дома на несколько месяцев – это дополнительные проблемы для колясочников, которые хотят получить водительские права. Но ни в Полоцке, ни даже в Витебске автошкол для инвалидов-колясочников нет. Сейчас, насколько мне известно, автошколу с хорошим общежитием открыли в Могилеве. Автомобиль для колясочника – вторые ноги. Сейчас я независим в передвижении – куда захотел, туда и поехал.

**– С какими еще проблемами сталкивается человек на коляске?**

– В основном это психологические трудности. Я видел успешных бизнесменов с планами на жизнь, но потом происходила травма, и преодолеть ее последствия мог не каждый. Многие спивались за считанные месяцы...

**– Если не секрет, каков сегодня размер пенсии инвалида-колясочника?**

– Мне в этом плане проще – зарабатываю: работаю спортсменом-инструктором уже несколько лет. А пенсия составляет 1 миллион 900 тысяч рублей.

**– Пенсия небольшая, какую-то подработку человеку с ограниченными способностями найти наверняка сложно…**

– Работа для человека в коляске – больной вопрос. Я в свое время собирал светильники на дому, но позже предприятие перестало работать в Полоцке. Деньги платили небольшие, но была хоть какая-то добавка к пенсии. У меня много знакомых колясочников, которые говорят, что трудоустроиться сложно. В последнее время как в Минске, так и в регионах завоевывает популярность служба «124», поэтому люди пробуют сотрудничать с ними.

**– Фехтованием вы занимаетесь с детства?**

– Нет, я посещал различные спортивные секции: футбол, плавание... В Полоцке есть замечательный тренер по фехтованию – Семен Ефимович Сущин, который уже после травмы предложил мне попробовать заниматься. У него очень ответственный подход. Мне понравилось, все-таки шпага – оружие. Поначалу ничего не понимал, конечно, но потом начал тренироваться, появились первые результаты. На тот момент мне было 24 года.

**– Помните, как получили свою первую медаль?**

– *(Задумался.)* Если говорить про международный уровень, то это чемпионат Европы, где я занял 3-е место. Непередаваемое ощущение тогда испытал. Эйфория от победы вдохновила и стимулировала на дальнейшие результаты. Эмоции зашкаливали...

**– Много времени уходит на тренировки?**

– Утром общая физическая подготовка – работаем с гантелями и на тренажерах. Вечером – непосредственно фехтование. 9 июля мы едем в Польшу на этап Кубка мира, поэтому сейчас идет подготовка, и тренировки проходят каждый день. Ближе к соревнованиям график станет полегче, чтобы приехать в хорошей форме.

**– Фехтование нередко называют «эпизодическим» видом спорта…**

– Если смотреть схватку по телевизору, то рядовой зритель может и не увидеть, какого труда стоит тот или иной прием, как сложно правильно выбрать момент и уколоть соперника. В этой деятельности важна не только физическая подготовка. Фехтование считается интеллектуальным видом спорта, оно занимает второе место после шахмат. Приходится очень много думать...

**– На соревнования много людей приходит?**

– В основном на паралимпийские выступления и у нас, и в Европе приводят детей. Помню, когда чемпионат мира проходил в Париже, людей было очень много. Во Франции фехтование популярно. Я был приятно удивлен такому количеству народа. Дети и взрослые подходили, фотографировались.

**– Андрей, как вы восприняли награду «Человек года Полотчины»?**

– Награждение было неожиданностью. Очень приятно, когда усилия не остаются незамеченными. Родственники и друзья звонили и поздравляли. Теперь, представляя Полоцк на международной арене, я ощущаю еще большую ответственность...

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

ЕЎРАПЕЙСКІЯ ГУЛЬНІ-2015

# Гульні на мільярд

*Больш за тыдзень таму ў Баку адкрыліся Еўрапейскія гульні, якія працягнуцца да 28 чэрвеня.*



Азербайджан атрымаў права праводзіць першыя ў гісторыі Еўрапейскія гульні ў 2012 годзе. Перамога атрымалася, можна сказаць, элегантная – канкурэнтаў у Баку не было па той простай прычыне, што ніхто не захацеў браць на сябе вялізныя выдаткі на арганізацыю мерапрыемства.

Яшчэ ў красавіку міністр спорту Азербайджана **Азад Рагімаў** распавёў, колькі плануецца патраціць на гульні. Так, агульная сума аперацыйных выдаткаў на той момант складала, паводле яго слоў, 960 млн 150 тыс. манат (каля мільярда долараў). Пры гэтым Рагімаў не ўдакладніў, у колькі абыдзецца краіне аплата пераезду і знаходжання ў Баку ўсіх нацыянальных каманд. Гэтыя выдаткі таксама кампенсуюцца з бюджэту дзяржавы. Канчатковую суму арганізатары абяцаюць назваць пасля заканчэння Гульняў, і зразумела, што патраціць Азербайджан нямала. Хоць для нафтавай краіны, можа быць, гэта і няшмат.

Зараз каманда Азербайджана радуе сваіх балельшчыкаў, ідзе на другім месцы ў медалёвым заліку. І перад спаборніцтвамі зборная добра ўзмацнілася – пад сцягі гэтай краіны перайшлі каля 80 замежных спартсменаў. У тым ліку і восем беларусаў.

Дарэчы, у 2007 годзе запрашалі выступаць за каманду Азербайджана і беларускага барца Аліма Сялімава. Кошт прапановы быў паўмільёна долараў. Сялімаў не захацеў з’язджаць з Беларусі, але некаторыя ад такіх “смачных” прапаноў не адмаўляюцца.

Зрэшты, беларускія спартсмены на Еўрапейскіх гульнях таксама выглядаюць вельмі прыстойна і ўжо сабралі цэлую калекцыю медалёў. Спаборніцтвы гэтыя, безумоўна, не Алімпіяда і нават не чэмпіянат свету, але праверыць сябе напярэдадні Алімпійскіх гульняў у Бразіліі можна.

І яшчэ. Днямі стала вядома, што Галандыя, якая атрымала права прымаць Еўрапейскія гульні ў 2019 годзе, вырашыла адмовіцца ад іх правядзення. Афіцыйная прычына не агалошваецца, але магчыма, што бар’ерам сталі менавіта вялізныя выдаткі. Выбары пройдуць ізноў, сярод прэтэндэнтаў на Еўрагульні-2019 пяць краін – Турцыя, Польшча, Вялікабрытанія, Расія і Беларусь. Так што зусім верагодна, што ўжо праз чатыры гады Еўрапейскія гульні пройдуць у Мінску. Застаецца дробязь – знайсці некалькі мільярдаў долараў на іх правядзенне.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

# Ведай нашых!

Па стане на 21 чэрвеня ў агульным медалёвым заліку зборная Беларусі знаходзілася на 4-м месцы – 33 медалі (8 залатых, 7 сярэбраных, 18 бронзавых).

На 1-м месцы – Расія – 77 (40–23–14), на 2-м – Азербайджан – 35 (14–7–14), на 3-м – Германія – 31 (10–9–12).

У складзе беларускай каманды медалі заваявалі:

### 13 чэрвеня

**Саслан Даураў** (серабро, грэка-рымская барацьба, вагавая катэгорыя да 59 кг), **Віктар Сасуноўскі** (бронза, грэка-рымская барацьба, да 80 кг).

### 14 чэрвеня

**Іосіф Чугашвілі** (бронза, грэка-рымская барацьба, да 130 кг).

### 15 чэрвеня

**Аляксандр і Андрэй Багдановічы** *(на фота)* – (золата, каноэ-двойка, С-2, 1000 м), **Віталь Бялько і Раман Петрушэнка** (бронза, байдарка-двойка, К-2, 1000 м), **Вераніка Іванова** (бронза, барацьба).

### 16 чэрвеня

**Віталь Бубновіч** (золата, стральба з пнеўматычнай вінтоўкі на 10 м), **Марына Літвінчук і Маргарыта Махнева** (золата, байдарка-двойка, 200 м), **Марына Літвінчук** (золата, байдарка-адзіночка, 5000 м), **Васіліса Марзалюк** (золата, барацьба, да 75 кг), **Надзея Шушко** (да 53 кг) і **Марыя Мамашук** (абедзве – бронза, барацьба), **Павел Мядзведзеў, Раман Петрушэнка, Алег Юрэня і Віталь Бялько** (бронза, байдарка-чацвёрка, 1000 м).

### 17 чэрвеня

**Вікторыя Чайка** (бронза, стральба з пнеўматычнага пісталета), **каманда па мастацкай гімнастыцы** (бронза, групавыя практыкаванні).

### 18 чэрвеня

**Васіль Кірыенка** (золата, веласпорт, гонка з раздзеленым стартам на 51,6 км), **Аляксей Шэмараў** (серабро, вольная барацьба, да 125 кг), **Ганна Марусава, Кацярына Цімафеева і Алена Толкач** (серабро, стральба з лука, камандныя спаборніцтвы), **Сяргей Мартынаў** (бронза, стральба з малакалібернай вінтоўкі на 50 м).

### 19 чэрвеня

**Уладзімір Самсонаў** (серабро, настольны тэніс, індывідуальны турнір), **Меліціна Станюта** (бронза, мастацкая гімнастыка, шматбор’е), Кацярына Барысевіч, Вераніка Набокіна і Карына Сандовіч (бронза, акрабатыка, групавыя практыкаванні).

### 20 чэрвеня

**Алена Амялюсік** (золата, веласпорт, шасэ, групавая гонка на 120,7 км).

### 21 чэрвеня

**Ксенія Чалдышкіна, Ганна Дудзянкова, Марыя Кадобіна, Валерыя Пішчэліна, Арына Цыцыліна** (золата, мастацкая гімнастыка, практыкаванні з булавамі і мячамі), **Меліціна Станюта** (мастацкая гімнастыка, серабро ў практыкаваннях з мячом і дзве бронзы ў практыкаваннях з абручом і булавамі), **Уладзіслаў Ганчароў** (серабро, батут, індывідуальныя спаборніцтвы), **Ганна Гарчонак** (бронза, батут, індывідуальныя спаборніцтвы), **Уладзіслаў Ганчароў і Мікалай Казак** (серабро, батут, сінхронныя скачкі), **Віталь Бубновіч** (бронза, стральба з малакалібернай вінтоўкі на 50 м з трох палажэнняў), **Кацярына Барысевіч, Вераніка Набокіна, Карына Сандовіч** (жаночая каманда акрабатак, бронзавыя медалі ў двух практыкаваннях – кручэнні і балансіраванні).

ФУТБОЛ

# З кім згуляюць беларускія клубы ў еўракубках?

*Учора беларускія футбольныя клубы даведаліся пра сваіх сапернікаў у еўракубках.*



Паводле вынікаў лёсавання, якое прайшло 22 чэрвеня, чэмпіён Беларусі – барысаўскі БАТЭ – у 2-м раўндзе кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў згуляе з ірландскім «Дандалкам».

Матчы пройдуць 14–15 і 21–22 ліпеня (першая гульня – у Барысаве).

У Лізе Еўропы Беларусь будуць прадстаўляць тры клубы – “Тарпеда-БелАЗ” з Жодзіна і салігорскі “Шахцёр”, якія стартуюць з 1-га кваліфікацыйнага раўнда, а таксама мінскае “Дынама” (з 2-га).

Як стала вядома, “Тарпеда-БелАЗ” пачне свой турнірны шлях матчам у гасцях супраць албанскай каманды “Кукесі”, а “Шахцёр” у гасцях сустрэнецца з паўночнаірландскім “Гленавонам”. Мінскае “Дынама” паспаборнічае з балгарскім клубам “Чэрна Мора”.

Паядынкі 1-га раўнда адбудуцца 2 і 9 ліпеня. Сустрэчы 2-га раўнда запланаваны на 16 і 23 ліпеня.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

УСМІХНІЦЕСЯ!

Ідзе суд. Суддзя звяртаецца да абвінавачанага:

– Падсудны, растлумачце: чаму вы, быццам бы нармальны чалавек, выпускнік прэстыжнай ВНУ, жорстка збілі паштальёна, паважанага чалавека?

– А што б вы зрабілі на маім месцы? Прыйшоў да мяне гэты паважаны чалавек і кажа: «Я прынёс заказны ліст. Але пакуль не станцуеш, я яго не дам».

– І што ж?

– Станцаваў... А гэта позва ў ваенкамат.



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15048

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб’явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 22.06.2015 у 17.00. Аб’ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25420 экз. Заказ №2231.